АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

11 - 17 ВЕРАСНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 4000 РУБЛЁЎ
№37 (177)

ВАЛОЖЫН

## Тэлефонаў будзе больш

ДРБУ-167 прадаставіла памяшканне для расшырэння АТС на 100 нумароў. Установка тэлефонаў адбудзецца згодна з чаргой. Выключэнне – вёска Аўгустова, што размешчана непадалёку.

У Івянцы таксама вядуцца работы па пашырэнні АТС. Да існуючых 1200 нумароў хутка далучацца яшчэ 800.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

## Панядзелак пачынаецца ў суботу

Незадаволенасць рэзкім павышэннем цэнаў на многія спажывецкія тавары вылілася ў забастоўку работнікаў будаўнічага трэста №41.

У панядзелак раніцай яны прыйшлі ў кабінет да старшыні райвыканкома **Мікалая Кавалёва.** Пасля непрацяглай, памужчынску шчырай і дзесьці рэзкай размовы будаўнікі вярнуліся на свае рабочыя месцы. А ў кабінеце засталіся кіраўнікі трэста для больш грунтоўнага дыялогу з прадстаўнікамі гарадскіх уладаў.

Трэба думаць, што пастаяннае адставанне зарплаты большасці працаздольнай часткі насельніцтва рэспублікі ад росту цэнаў, у тым ліку, на прадметы першай неабходнасці, выльецца яшчэ ў шмат такіх эксцэсаў.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## З гірай на злодзея нязручна

У нядзелю на калгасным рынку злодзей сцягнуў з прылаўка кілбасу.

Прадавец доўга не думаў, а запусціў услед кілаграмовай гірай. "Жалезка" трапіла ў галаву 40-гадовай вілейчанцы, якая прыехала за пакупкамі.

Ахвяра знаходзіцца ў бальніцы Вілейкі. Пратаколы складзеныя і на злодзея, і на прадаўца.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

АШМЯНЫ

## Першы фестываль

Упершыню ў раёне прайшоў фестываль работнікаў адукацыі. У СШ №1 сабраліся настаўнікі пачатковых класаў.

На фэсце вывучалі вопыт работы настаўнікаў СШ №3 **Валянціны Рэут, Алены Тымуль, Людмілы Гаспаровіч.** Яны чацверты год працуюць у класах з эстэтычным ухілам і лічаць, што ўсе дзеці таленавітыя.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

## На дажынкі са сваімі прадуктамі

Акрамя духоўных ды культурных набыткаў, на рэспубліканскіх дажынках у Нясвіжы раён пакажа і работу грамадскага харчавання.

Калектыву рэстарана "Іслач" даручана на працягу дня падсілкоўваць дэлегацыі 2-х абласцей, мясцовыя кулінары выязджаюць са сваімі прадуктамі.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

ВАЛОЖЫН

## Лейкоз-2000

9 гаспадарак поўнасцю ачышчаныя ад лейкозу.

Але раён па-ранейшым уваходзіць у шасцёрку раёнаў Міншчыны, дзе колькасць кароў і быкоў з гэтай хваробай складае больш за тысячу. Райвыканкам зацвердзіў праграму мерапрыемстваў па прафілактыцы і ліквідацыі лейкозу да 2000 года.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

МІНСК

## ЗАТ фінансуецца дзяржавай

На прэс-канферэнцыі, што прайшла ў сераду, намеснік старшыні Мінгарсавета **Уладзімір Карагін** паведаміў, што чарговая, 10-я сесія гарадскога Савета дэпутатаў пачне сваю работу 20 верасня. На яе разгляд выносіцца больш за дзесяць пытанняў.

Найперш плануецца заслухаць інфармацыю аб выкананні бюджэту і сацыяльна-эканамічным развіцці Мінска за дзевяць месяцаў гэтага года і даклад старшыні Мінгарвыканкома **Уладзіміра Ярмошына** аб фінансаванні закрытага акцыянернага таварыства «Футбольны клуб «Дынама» (Мінск)».

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Жанчыны вобласці параіліся

У горадзе прайшоў абласны семінар жаночых саветаў. Старшыня абліжансавета **Рэгіна Давідовіч** штогод збірае сваіх "падначаленых" у раёнах, дзе можна ўбачыць нешта карыснае.

Летась жанчыны былі ў Чэрвені натудні Маці. Цяпер у Вілейцы яны наведалі ПТВ-124 (дзе беспрацоўных жанчын перанавучаюць прафесіям сакратара-справаводчыка, прадаўца, аператара ПЭВМ, вучаць майстэрству лозапляцення), цэнтр «Міласэрнасць», які дапамагае маламаёмным.

Таксама ўдзельнікі семінара пагледзелі, як у раёне выконваюцца ўмовы абласнога конкурсу «Дому - утульнасць, пасёлку - чысціню, гораду - квітнеючы выгляд».

*Аддзел інфармацыі.*

# У Маладзечне і Вілейцы дызентэрыю спынілі

### Кампенсацыю пацярпелым і не распачыналі

***Каля 100 чалавек гарадоў-суседзяў з дызентэрыяй трапілі ў інфекцыйнае аддзяленне маладзечанскага тубдыспансера. Пераважная большасць хворых – дзеці. Выконваючая абавязкі загадчыцы І-га інфекцыйнага аддзялення (дзіцячага) Святлана Розіна адзначыла, што ўсе пасняхова праходзяць курс лячэння і пасля вынікаў паўторных аналізаў, хутчэй за ўсё, у канцы тыдня, паедуць дадому.***




У Вілейцы надзвычайную сітуацыю знялі. У сувязі з інфекцыяй быў створаны штаб, які ўзначальваў намеснік старшыні гарвыканкома Васіль Валадкевіч.

У Маладзечне запацавалі школьныя сталоўкі. На ўсялякі выпадак там свядома не спяшаліся наладжваць харчаванне. ЧП міжраённага маштабу ўдалося своечасова загасіць.

Работнікам мясцовых цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі давялося папрацаваць аператыўнікамі крымінальнага вышуку, высвятляючы паходжанне інфекцыі. Тым не менш, і сёння ніхто адназначна не можа сцвярджаць, адкуль узялася дызентэрыя.

У Вілейцы сітуацыя больш-менш зразумелая. Галоўны ўрач ЦГЭ Міхаіл Міхалевіч гаворыць, што дзіцячым садкам №9, 11, дзіцячаму цэнтру "Надзея XXI стагоддзя", што ў Будзішчы, з мясцовага малаказавода завезлі ацыдафілін. Карысны кісламалочны прадукт быў забруджаны. Адсюль і ўспышка хваробы.

А вось яго калега (в. а. галоўурача) з Маладзечна Міхаіл Грабоўскі лічыць, што ў родным горадзе інфіцыраваным было прывазное вілейскае масла – 2 тоны трапіла ў гандаль. Таксама існавала падазрэнне на глазіраваныя сыркі маладзечанскага гармалзавода. Трое захварэлых ужывалі іх.

У Вілейцы і Маладзечне высеялі аднолькавы тып інфекцыі (2 Е). Спецыялісты сышліся ў адным: адрас хваробы, хутчэй за ўсё, – Вілейскі малаказавод.

Наогул, у Вілейцы з-за ўзнікнення інфекцыі аштрафавана 28 адказных асоб. Памер штрафаў – па 5-10 мільёнаў рублёў. А вось ці можна разлічваць на нейкую матэрыяльную кампенсацыю сем'ям, дзе захварэлі на дызентэрыю?

– Толькі тэарэтычна, – так ставіцца да праблемы юрыст маладзечанскага аддзялення таварыства абароны правоў спажыўцоў Святлана Цітовіч.

– Па-першае, цяжка даказаць, што менавіта гэты прадукт і гэтага завода ўжывалі захварэлы. Павінны захавацца чэкі аб набыцці тавару (інкубацыйны перыяд дызентэрыі – да 7 дзён). Па-другое, як даказаць, што ўжываў чалавек забруджаны прадукт?

Сёння ў сталоўках дзіцячых садкоў, школах Вілейкі ўсе малочныя прадукты тэрмічна апрацоўваюць. Нават смятану запякаюць. А салаты з сырой агародніны там на сталах з'явяцца не ў бліжэйшы час.

*Васіль САВІЦКІ.*



Да ўвагі асоб і арганізацый, што супрацоўнічаюць з "Рэгіянальнай" газетай"!

Просім карыстальнікаў электроннай пошты дасылаць свае паведамленні на наступны электронны адрас "РГ":

**Region_news @ usa.net**

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Кусаюцца жывёлы і грыбы

МАЛАДЗЕЧНА. Становішча з захворвальнасцю на дызентэрыю ў горадзе ў першы тыдзень верасня стабілізавалася. Дзякуючы комплексу прынятых стандартна-супрацьэпідэмічных і медыцынскіх мерапрыемстваў, праведзеных работнікамі РЦГіЭ і паліклінік. За тыдзень зарэгістравана 30 выпадкаў захворвання ВКІ, з іх 6 – дызентэрыяй па першасных дыягназах. У горадзе захварэў 21 чалавек, у т. л. 13 дзяцей дашкольнага ўзросту, 4 школьнікі і 13 дарослых.

З мэтай папярэджання заносу інфекцыі ў школы горада санслужбай была забаронена да 7 верасня арганізацыя харчавання.

◆ З пачаткам навучальнага года адзначана выяўленне дзяцей, хворых на педыкулёз – 17 выпадкаў. Гэта адзначана ў шэрагу школ горада і раёна.

Зарэгістраваны 2 выпадкі захворвання на кароста.

◆ Як і раней, у горадзе рэгіструюцца выпадкі пакусаў жывёламі – 6. На тэрыторыі раёна – 3 (**3 іх – 1 выпадак нападзення ў раёне Радашковічаў у лесе на жанчыну тхара, які быў адлоўлены.** Галаву звярка адправілі для даследавання ў лабараторыю, а тыя, хто кантактаваў з жывёлай, вымушаныя прыняць поўны курс антырабічных прывівак, каб пазбегнуць смяротнага захворвання шаленствам).

*Заканчэнне на 3-й стар.*

## Ад цыгарэтаў да металу

***МАЛАДЗЕЧНА. Міжраённы аддзел дзяржкамітэта фінансавых даследаванняў сёлета прыцягнуў да адміністрацыйнай адказнасці звыш за 700 чалавек. За парушэнні падатковага заканадаўства ў бюджэт спагнана 13 мільярдаў рублёў.***

Паўгода, як знаходзіцца ў вытворчасці крымінальная справа на малым вытворча-гандлёвым прадпрыемстве "Металапракат". Прадпрымальнікі гандлявалі металам на-буйным. Падраблялі дакументы, каб не плаціць падаткі. Схавана даходу на суму больш за 12 мільярдаў рублёў.

Апошнім часам ля калгаснага рынку не відаць жанчын, што гандлявалі цыгарэтамі. За такі "бізнес" іх калегу Надзею Васькіну суд пазбавіў волі на 3 гады і 3 месяцы. Там жа, ля рынку, пры незаконным абмене валюты затрымалі Антона Найлаўца. У яго канфіскавана 220 долараў ЗША, 97 мільёнаў беларускіх рублёў. Гарсудом ён аштрафаваны на 12,5 мільёнаў.

Напрамкі работы міжрайаддзела розныя – банкі, валюта, рэйды з праверкамі мясцовага гандлю, дзяжурствы на дарогах. На 70 мільёнаў канфіскавана і накіравана ў даход дзяржавы масла, кілбасаў, малочнай прадукцыі. Кантралюецца вываз прадуктаў за межы РБ.

У зоне абслугоўвання аддзела (Маладзечна, Вілейка, Валожын, Мядзел) 7 спіртзаводаў. Расійская фірма "Аверс" завезла на спіртзавод вёскі Ілава, што на Мядзельшчыне, сыравіну, каб там перапрацаваць яе ў спірт-рэктыфікат. Пры гэтым груба парушыла заканадаўства. У выніку канфіскавана 120 тон спірту.

*Інфармацыю падрыхтаваў інспектар міжрайаддзела ДКФД Аляксей МАЛАФЕЙ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Хата на знакамітасці багата



*Настаўнікі Кабыльніцкай школы разам з бацькамі, служачымі вёскі.*

ФОТА З АЛЬБОМА ЖЫХАРКІ НАРАЧЫ СОФ'І ДЗЯРГАЧ (ЗДЫМАК ЗРОБЛЕНЫ ДА 1939 ГОДА).

***Краязнаўцы вёскі Нарач (ранейшы Кабыльнік) вядуць пошук звестак пра свой населены пункт. У дакументах ёсць такая дата: у 1463 годзе пабудавалі драўляны касцёл. А што было да гэтага?***

Адказаць на пытанне, калі адкрылася школа граматы ці сялянскае вучылішча, дапамог артыкул у хроніка–дакументальнай кнізе "Памяць" Мядзельскага раёна: у 1878 годзе ў Кабыльніку існавала народнае вучылішча, настаўнікам працаваў селянін **С. Верамет**. Вучыліся 31 хлопчык і 1 дзяўчынка.

За 120–гадовы перыяд школа прайшла нялёгкі шлях. Пры цару вялося навучанне на расійскай мове. Мова карэннага насельніцтва не бралася пад увагу.

Пасля мірнага дагавору паміж Польшчай і Саветамі аж да 17 верасня 1939 года зноў у класах не гучала беларуская мова.

Замест двух драўляных школьных будынкаў быў узведзены адзін, па тым часе тыповы, дзеці займаліся сем год. Калі немцы напалі на Польшчу, дырэктар – афіцэр **Уладзіслаў Вырвіч** апынуўся на фронце. Трапіў у палон, пабываў у Катыні. У час акупацыі драўляны будынак згарэў. Сёння ёсць двухпавярховы цагляны.

Пасля 17 верасня 1939 года і па сёння школа беларускамоўная. У Нарачы жывуць да дзесяці розных нацыянальнасцяў, але не ўзнікала пытанне, каб выгнаць беларускасць з класаў. Бацькі і настаўнікі ведаюць, што стараннаму вучню родная мова толькі падмога ў вывучэнні іншых моў. Многія выпускнікі (а іх з 1953 года 1720 чалавек) паспяхова набывалі розныя прафесіі ў ВНУ Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Кіева, Вільнюса, Рыгі, Львова, Адэсы.

Вярнуўся пасля шмат гадоў жыцця ў Аргенціне былы жыхар Кабыльніка **Леанід Папок** з двума сынамі–школьнікамі.

Хлопцы на мове бацькоў працягвалі займацца ў школе. Цяпер **Альберт і Іван** маюць вышэйшую адукацыю, займаюцца педагагічнай дзейнасцю. Цяпер у школе працуюць 42 настаўнікі, з іх 28 – былыя вучні. Склаліся сямейныя дынастыі. Ардэнаносец, заслужаная настаўніца Беларусі **Рэгіна Юркевіч** цешыцца, што сын **Валерый** і нявестка **Наталля** пайшлі па яе слядах. Працуюць тут таксама дынастыі **Далінковічаў, Навіцкіх**.

Школьнікі ўдзельнічаюць ў рэспубліканскіх алімпіядах. Па яе выніках вучні **Валянціна Находка і Оля Маліноўская** залічаныя без экзаменаў у лінгвістычны ўніверсітэт.

Гасцямі школы ў пэўны час былі **Ніл Гілевіч, Сергей Грахоўскі, Сяргей Законнікаў, Уладзімір Ліпскі, Мар'ян Дукса**.

Настаўніца–мовавед **Фаіна Валюк** кожны год арганізуе экскурсіі школьнікаў на радзіму Максіма Танка, Францішка Багушэвіча, па шэрагу гістарычных мясцін.

Дырэктар школы **Яўген Роўда** гаворыць:

– На ўрачыстасць з нагоды юбілею будзем запрашаць былых выпускнікоў, найперш пасляваенных год, змесцім у газетах запрашэнне.

У школе спадзяюцца, што ў сценах роднай школы пабываюць пісьменнік **Вячаслаў Лапцік**, мастак **Уладзімір Мехавіч**, навукоўцы **Уладзімір Вярэнька, Ігар Лысёнак, Ірына Рымайда, Наталля Рогач** (член асацыяцыі стаматолагаў Еўрасаюза), выкладчык Ваеннай Акадэміі **Валерый Шулякоўскі**, работнік Міністэрства культуры **Тадэвуш Стружэцкі**, выкладчыкі Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта **Іван Папок, Кацярына Місуна**, траўнікі **Іван Находка, Віктар Чабатар**, работніца Мінаблвыканкома **Рэгіна Давідовіч**, сораўская настаўніца **Іна Грыгарцэвіч** (з к. п. Нарач)...

Дарагім госцем будзе **Тадэвуш Маліноўскі**, які скончыў школу 30 год таму. Ён старшыня камітэта па кіраўніцтву дзяржмаёмасцю і прыватызацыяй Мінска. Дапамог школе набыць камп'ютэр, ксеракс, два тэлевізары, інструменты для майстэрні, спортінвентар, гульні для вучняў пачатковых класаў.

У ліку тых, хто раней вучыўся ў Нарачы, шмат перадавых людзей у калгасе "Прыазёрны", на мясцовых масласырзаводзе і заводзе безалкагольных напіткаў. Дваццаць былых вучняў у свой час атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды за работу ў розных галінах гаспадаркі, асветы, культуры.

Школа заўсёды імкнулася выхаваць у дзяцей павагу да людзей розных нацыянальнасцяў. Гэтаму сведчанне тое, што падчас нямецкай акупацыі **Іосіф Тункевіч, Адольф Жалубоўскі** хавалі ад гітлераўцаў яўрэйскія сем'і.

Нарачанская (Кабыльніцкая) школа і сёння памнажае добрыя традыцыі.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

КУЛЬТУРА

# Вілейскі зайка даскакаў да Нямеччыны

***ВІЛЕЙКА. Дзіцячыя творчыя калектывы горада маглі і не наведаць германскі горад–пабрацім Оберхаузен. Арганізатары – мясцовыя гарвыканком (старшыня Пётр Юдо), аддзяленне дзіцячага фонду (старшыня Мікалай Гіро) зрабілі ўсё, што ад іх залежала. Але за мяжой выдаткаваных 1 тысячы марак для аздараўлення беларускіх дзяцей было недастаткова.***

Вяліся перамовы са спонсарамі. І толькі пасля таго, як губернатар Оберхаузена **Герд Маер** са сваёй асабістай калекцыі падарыў "каму трэба" мяккую цацку–зайку (зробленую дзецьмі эстэтычнага цэнтра Вілейкі), германскія спонсары "растаі" і дапамаглі матэрыяльна.

Упершыню вілейскія таленавітыя дзеці наведалі горад–пабрацім. Ездзілі ўзорны дзіцячы духавы аркестр школы мастацтваў (кіраўнік **Фёдар Гуро**), дзіцячая эстрадная студыя "Экспромт" (**Нэлі і Алег Зайцавы**), дзеці з цэнтра эстэтычнага выхавання (дырэктар **Таццяна Захарыч**). Менавіта з ёй я і сустрэўся ўжо на роднай зямлі.

– У Оберхаузене далі 6 канцэртаў, – расказвае яна, – я перапраналася ў беларускую нацыянальную сукенку. І востра адчувала, што званне беларуса можна несці з гонарам. Канцэрт пачыналі разам з Мікалаем Гіро па–беларуску. Таксама спявала пад гітару. Некалькі песень на словы нашай зямлячкі Ганны Новік.

Пры тамтэйшай царкве ёсць 3–павярховы дом з 1–3–месnymі нумарамі, сталоўкай, гасцінай. У ім і жылі. У падвале дома стаяць тэнісныя сталы. У вольны час гулялі ў тэніс – эстэтычны цэнтр супраць духавікоў. Харчаваліся ўсім найсмачнейшым. Нягледзячы на тое, што ў немцаў у модзе бутэрброды – і на раніцу, і на вечар.

– Ці бачылі эмігрантаў з былога Саюза?

– У кожнага з іх свае патрабаванні да жыцця. Жанчына з Санкт–Пецярбурга 15 год, як у Германіі. Яшчэ дома скончыла кансерваторыю. У Оберхаузене вучыць дзяцей музыцы. Яе муж трымае прыватную клініку. Балюча было глядзець, як рускі з Казахстана падмятае царкву. Хаця ён і кажа: "У мяне няма праблемаў".

– Не ўзнікала думка крыху падзарабіць музыкай на вуліцах Оберхаузена?

– Мы ні ў чым не мелі патрэбы. Тэарэтычна, каб селі на вуліцы, мільянерамі не сталі, аднак зарабілі б шмат. Нашы дзеці – музыканты, лічы, прафесіяналы. А да вырабаў цэнтра эстэтычнага выхавання падыходзілі немцы і пыталіся: "Чаму не прадаяце?"

Губернатар горада з задавальненнем ўзяў да сваёй калекцыі нашага гноміка ў чырвоным адзенні:

– Занясу ў бундэстаг. Гэта колер нашай партыі.

– У Германію ездзілі на "Мерседэсе"?

– Так – вілейскай аўтакалоны. Мяккі "Ікарус" называецца. Яго нашы ўлады доўга рыхтавалі да падарожжа. Паехала 35 чалавек. Астатнія месцы ў салоне прыстасавалі пад апаратуру.

– Дарослыя немцы, іх дзеці неяк уразілі?

– Дзесьці ў нас розны падыход да выхавання. Калі іхніх дзяцей перапаўняюць эмоцыі, яны могуць у грамадскім месцы крычаць, пішчаць. Больш за ўсіх сваёй бескарыслівасцю мне падабаўся пенсіянер з рускім імем Саша. Усіх частаваў марожаным і не аднойчы.

*Размаўляў Васіль САВІЦКІ.*

ПАВЕДАМЛЯЕ БЕЛАПАН

# Прэзідэнт мяркуе арганізаваць цэнтралізаваныя пастаўкі харчавання ў Расію

МІНСК. Прэзідэнт Беларусі сустрэўся з прадстаўнікамі прадпрымальніцкіх структур, занятых у сферы вытворчасці.

- Сітуацыя такая, што сёння, калі ўскладнілася становішча на сусветным і расійскім рынках, трэба прымаць сур'ёзнае рашэнне, - падкрэсліў прэзідэнт.

Ён паведаміў, што пастаянна кантактуе з кіраўнікамі шэрагу дзяржаў і абмяркоўвае праблемы стабілізацыі крызіснай сітуацыі.

- Сёння цяжка ўсім, - сказаў **А. Лукашэнка**.

Ёсць прадпрымальнікі, адзначыў прэзідэнт, якія займаюцца не зусім чыстым бізнесам. Некаторыя з іх, па яго словах, нерэалізаваны тавар пачалі забіраць на склад. Такія структуры працаваць на рынку не павінны, лічыць Лукашэнка.

Гаворачы аб узаемаадносінах з Расіяй, ён падкрэсліў, што з гэтай краінай неабходна падтрымліваць кантакты і гандляваць - гэта выгадна абедзвюм дзяржавам.

- Сёння яна (Расія) апынулася ў цяжкім становішчы. Аднак, я думаю, што крызіс не будзе цягнуцца бясконца, - сказаў прэзідэнт.

Ён таксама заявіў, што ўвечары 8 верасня ў яго адбылася доўгая тэлефонная размова з выконваючым абавязкі старшыні расійскага ўрада Віктарам Чарнамырдзіным. Беларускі прэзідэнт адзначыў у тэлефоннай размове, што таксама заклапочаны абстаноўкай у Расіі, якую неабходна стабілізаваць. Таму кіраўнік беларускай дзяржавы мае намер арганізаваць цэнтралізаваныя пастаўкі прадуктаў харчавання ў Расійскую Федэрацыю. Адпаведнае даручэнне ўжо дадзена ўраду Беларусі.

На заканчэнне сустрэчы з прадпрымальнікамі А. Лукашэнка сказаў, што не дапусціць у Беларусі такога абвалу, як у Расіі. Ён адзначыў, што пасля гэтай нарады мае намер прыняць яшчэ больш жорсткія захады для абароны беларускага рынку.

*Максім ЦІТОЎ, БелаПАН.*

# Дэлегацыя на «Польшчу-Усход»

МІНСК. На падставе праведзенага конкурсу сфарміравана дэлегацыя беларускіх прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў для ўдзелу ў VIII штогадовым Эканамічным форуме «Польшча-Усход», які мае адбыцца 29-31 кастрычніка ў горадзе Крыніца-Гурска.

Як паведаміла журналістам намеснік дырэктара Цэнтра падтрымкі прадпрымальніцтва "Цэнтр XXI стагоддзе" **Галі[illegible] Ільяшчук**, у склад дэлега[illegible] ўвайшлі каля 30 прадстаўнікоў беларускіх і сумесных прадпрыемстваў, сярод якіх СП "Лукойл-Беларусь", мінскае ААТ "ГУМ", віцебская фірма "Белпрамаўтаматыка", СП "Яліна" з Брэста і іншыя.

Спіс членаў беларускай дэлегацыі накіраваны арганізатарам форуму - Усходняму інстытуту (Варшава), заснаванаму групай вядомых польскіх палітыкаў і бізнесменаў.

*Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.*

МЯСЦІНЫ РЭГІЁНА

# Не завіце мяне Малой...

***Вёска Сырмеж у гістарычных дакументах згадваецца з 1527 года. Сёння ў ёй 52 двары. Прыкладна ў 25 кіламетрах на паўночны ўсход, на рацэ Малінаўцы, раскінулася Малая Сырмеж (у дакументах назва сустракаецца з 1847 года). Тады ў ёй было 8 двароў. А ў нашыя часы – па стане на 1 студзеня 1997 года – 84 двары.***

За кошт чаго так узрос гэты населены пункт?

Побач з кальцавой дарогай вакол Нарачы, з лясным водарам, пахам лугавых кветак, цішынёй, багаццем ягад і грыбоў у навакольным лесе Малая Сырмеж не засталася незаўважанай тымі, хто атрымаў крэдыт ці дастаў валюту з "панчохі", фінансаваўся цешчай. Літаральна за некалькі год Малая Сырмеж змяніла сваё аблічча. Уздоўж ракі, на ўзлеску, як грыбы пасля дажджу, пачалі расці катэджы: мураваныя, драўляныя, адна–ці двухпавярховыя. Часам у выглядзе міні–замка.

Атрымалі тут участкі для забудовы найбольш жыхары курортнага пасёлка Нарач, вёскі Нарач, мінчане.

Сувязісты пайшлі насустрач дачнікам і нават праклалі дадаткова тэлефонны кабель на 20 нумароў.

Вось і атрымліваецца, што Малая Сырмеж не адпавядае сёння сваёй ранейшай назве. Ці назва – цяперашняй вёсцы.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

НАШ ВЕРНІСАЖ

# Не шкваркай адзінай



*Маладзечанская «сцяна мастакоў».*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Многія з тых, хто спяшаюцца за пакупкамі на калгасны рынак, нават і не ўсведамляюць, што яны пастаянна праходзяць ля незвычайнага месца, дзе на сценах вывешваюць свае работы мясцовыя мастакі. Калі хтосьці і сцішвае хаду на хвіліну-другую, то каб толькі хуценька прабегчы вачыма і проста так запытацца пра цану.

Сапраўдных аматараў жывапісу ці знаўцаў мастацтва сярод выпадковых гледачоў нямнога. І купляюць па большасці рамкі да маленькіх карцін ды невялікія замалёўкі. А прапануецца шмат што. У асноўным, гэта напісаныя маслам на палатне аўтарскія пейзажы - віды поплава з дубамі на беразе Віліі, майскіх мясцінаў пад Даманавым, сасновы лес з зімовым сонейкам на Вілейшчыне, замалёўка з маленькай рэчкай у сакавіцкай Белавежскай пушчы.

Кошт карцін розны, у залежнасці, мусіць, ад памеру затрачанай працы. За вялікую карціну просяць 12 мільёнаў, але ёсць і за 8, за 4. Аўтары не без сціпласці дадаюць, што рэальны кошт карцін у некалькі разоў большы.

Ёсць у продажы і авангард - карціны маслам, пакрытыя лакам. Яны хоць і абуджаюць фантазію, але мусяць чакаць свайго пакупніка. Прапануюцца таксама і розных памераў рамкі, каталіцкія іконы, інкрустацыі таніраванай саломкай на чорным аксаміце.

Карацей, выбар ёсць. Але, калі вы і не вырашыце штонебудзь набыць, то можаце проста пабываць на мастацкай выстаўцы. Бясплатна і без адрыву ад вытврчасці -- набыцця прадуктаў.

*М. А.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-34, 36.*

## Прыбалтыйскі акцэнт

ЦРУ, як відаць, амерыканцы не надта шануюць. Аналогіі можна праводзіць і з нашай краінай. Дарэчы, пра Беларусь, на здзіўленне, чулі многія. У асноўным, з-за прэзідэнта. Рэагавалі, было, і так:

- З Беларусі? Наш Клінтан таксама кепскі.

Прэзідэнты, відаць, у любой краіне маюць шмат крытыкаў.

Хаця адзін свяшчэннік Беларусь і Расію "развёў", выказаўся так:

- Мінск мне спадабаўся лепей за Маскву. Масква халодная і чужая - нашаму хору нават не далі там выступіць. І людзі мітуслівыя, дзёрганыя, крыклівыя.

Згаданы ў мінулай публікацыі **Дэніс Шарп** загады ў сваёй кампаніі аддае напаўголас, але выконваюцца яны ў імгненне. Ён выдатна ведае 6 моваў, мае чорны пояс па таэквандо:

– Я шмат разоў быў у вашым Савецкім Саюзе. Тры разы – афіцыйна. Аднаго разу я нават быў падпалкоўнікам Савецкай Арміі – мне сказалі, што ў мяне вельмі прыемны прыбалтыйскі акцэнт.

Быў Шарп і на Каўказе. Там ён цікавіўся ўсім:

– Мне интересно ваше обрезание!

Пасля працяглай паўзы яго субяседнікі здагадаліся, што меў ён на ўвазе "образование". Сам амерыканец пры згадванні пра эпізод гучна смяецца.

Было і не надта смешнае.

– У 1963 годзе маёй прафесіяй было вучыць забіваць савецкіх салдатаў. Мне сорамна за гэта, але гэта была мая прафесія. Падобным займаліся інструктары і ў вас.

На прамое пытанне пра мэты нашага запрашэння Дэніс адказаў адразу. Відаць, прадчуваў яго.

– Амерыка ўкладвае ў вас грошы, каб не валіць мільярды на ўзбраенне. Гэта больш выгадна і танна. Вы на ўласныя вочы пагледзіце, як мы жывем, упэўніцеся ў заангажаванасці некаторых сваіх поглядаў на нас. Мы не хаваем і таго, што хацелі б адсунуць вашых палітыкаў ад Расіі (дакладней, ад палітыкі, што праводзіць гэтая краіна). Каб Беларусь не была правадніком геапалітычных ідэй суседняй дзяржавы.

Расіі, адчувалася, тут пабойваюцца. Тлумачэнне простае: краіна з нізкім узроўнем развіцця мае ядзерную зброю. Не крыўдуйце за такую ацэнку эканамічнай магутнасці суседкі – пасля таго, што ўбачыў у ЗША, любыя размовы пра стабілізацыю ці пад'ём успрымаю як чарговы здзек над людзьмі. Дый тое, што робіцца ў нас ды расіянаў, сумненняў не пакідае.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 2.09 | 9.09 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 120,2 | **164,1** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 370 | **345** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 104,9 | - |
| Селядзец салёны | 1 кг | 52 | **54** |
| Рыс | 1 кг | 56 | - |
| Цукар | 1 кг | - | **49,5** |
| Грэчка | 1 кг | 48 | **59** |
| Алей | 1 л | 107 | **130** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 28 | **26,8** |
| Маянэз | 250 г | 25,4 | **28** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 90 | **120** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 34 | **40** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 44 | **50** |
| Лімоны | 1кг | - | - |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 35 | **40** |
| Масла | 1 кг | 100 | **110** |
| Тварог | 1 кг | 30 | **40** |
| Малако | 1 л | 9 | **10** |
| Бульба | 1 кг | 10 | **10** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 35 | **40** |

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## ... і грыбы

◆ Па–ранейшым, шмат дароў лесу – грыбоў – дастаўляецца для даследавання у радыелагічную лабараторыю. З даследаваных 84 пробаў, у 17 значнае перавышэнне РДУ–96. Гэта ўсё тыя ж курачкі, махавікі, польскі грыб, кабылкі, іншыя. Зборы грыбоў -- з розных месцаў Маладзечанскага і Вілейскага раёнаў.

***Аднак грыбы небяспечныя не толькі гэтым, неабходна памятаць, што сярод іх шмат атрутных, неядомых або ўмоўна ядомых. Таму пры збіранні неабходна быць уважлівым. Асаблівая небяспека заключаецца ў грыбах дамашняга кансервавання, якія могуць быць прычынай самага цяжкога атручвання – батулізму.***

***Міхаіл ГРАБОЎСКІ,***

***в. а. галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Маладзечанскага раёна.***

## Школьныя крыжаванкі

ВІЛЕЙКА. У газеце "Всё обо всём" быў аб'яўлены конкурс на лепшага адгадвальшчыка крыжаванак. У другі раз перамагла настаўніца СШ №1 **Святлана Чабатар**.

Пераможца расказала, што ў яе і мужа **Віталя Кастэнкі** адгадванне, складанне крыжаванак, турызм – любімыя заняткі ў сям'і.

***Марына ТАЧЫНСКАЯ.***

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## Што бачу, тое і цягну

ВІЛЕЙКА. 16–гадовы жыхар вуліцы Кастрычніцкай упарта абкрадаў гараджан, кіёскі. У адной хаце, акрамя рэчаў, сцягнуў нават паўкілаграма памідораў.

Як потым высветлілася, хлопец не вучыўся, не працаваў, жыў у часовай пабудове побач з бацькоўскай хатай. З бацькамі адносінаў не падтрымліваў. А сваё жытло ператварыў у склад накрадзенай "прадукцыі".

***Марына ТАЧЫНСКАЯ.***

## Цягнік машыну прапусціў

ВІЛЕЙКА. Машыніст цягніка Варшава – Санкт–Пецярбург спыніў састаў, калі ўбачыў, што аўтааматар на іншамарцы мае намер праскочыць пераезд.

Прычым хацеў зрабіць гэта раней за машыніста. Нягледзячы на гукавыя і светлавыя сігналы, "камікадзе" ціснуў на газ. Абышлося без ахвяраў, бо цягнік ішоў не на вялікай хуткасці.

***Марына ТАЧЫНСКАЯ.***

УРОКІ САМААБАРОНЫ

# Вечар, незнаёмы двор

*Працяг. Пачатак у №№ 24, 31.*

***Гэты артыкул найбольш адрасаваны мужчынам, бо па сваёй сацыяльнай і біялагічнай ролі слабы пол мусіць быць практычна адмежаваны ад такіх сітуацыяў. Калі жанчына трапляе ў экстрэмальнае становішча па–за сваім домам, гэта ў большасці выпадкаў звязана з асабістай нядбаласцю ці элементарнай правакацыяй небяспечнай сітуацыі.***

Нескладана напаткаць непрыемнасці, калі рэгулярна не выконваць прэвентыўныя меры засцярогі, прыкладам, хадзіць аднаму цёмным часам па неасветленых завулках і дварах. Разам з тым, наперад абсалютную бяспеку не пралічыш, таму разгледзім колькі тыповых сітуацыяў.

1. Вечар, незнаёмы двор паміж тыповых пяціпавярховых дамоў, разгарачаная кампанія з непрыхаванай зацікаўленасцю спыніла вас. Вы шкадуеце, што сюды зайшлі, ды яшчэ своечасова не адрэагавалі, калі пачулі п'яныя галасы. Але запозна шкадаваць, самы час настроіцца на "базар". Яшчэ нічога страшэннага не адбылося і, магчыма, пасля кароткай размовы вы спакойна рушыце далей, таму галоўнае – не разгубіцца і хуценька прааналізаваць сітуацыю.

На класічнае пытанне: "Цыгарэтка знойдзецца?" проста класічна адказаць: "Не", напэўна, будзе замала. Трэба пабудаваць тлумачальны сказ, накшталт: "Не, мужыкі, кінуў, здароўе не дазваляе" ці: "Не, мужыкі, сам шукаю", а можа: "Не, мужыкі, сам дзевяты дзень не куру – на заводзе грошы не плацяць, нават піва не купіш". Словам, адказ павінен даказваць, што вы – "свой" і ў вас нейкія праблемы.

Калі адчуваеце, што вашага тлумачэння будзе замала ці пачаставалі ўжо цыгарэткай, варта адразу пераходзіць у атаку, да прыкладу, замітусіцца і звярнуцца да братвы з нейкай праблемай: "Слухайце, мужыкі, тут, кажуць, тэлефон (дзяжурная аптэка) ёсць? У мяне з маці зусім блага. Сэрца. Трэба ўкол..." Галоўнае, не стаяць на месцы, круціцца, зазіраючы ў вочы. Хутчэй за ўсё, усялякая цікавасць да вас знікне, магчыма, нехта нават расчуліцца і дапаможа знайсці той тэлефон (давядзецца ўсё ж тэлефанаваць і хлусіць). Можна прыдумаць байку, што шукаеце свайго любімага сабаку пароды рызеншнаўцэр: "Хацеў наморднік начапіць, а ён, як шалёны, некуды да гэтых дамоў паляцеў. Не бачылі? Во дурная парода!"

Калі братву зусім не цікавяць вашыя праблемы, ім патрэбныя грошы, вопратка, хочацца пакуражыцца, вам трэба імгненна памяняць тактыку. З гэтага моманту вы – баязлівец, слабак, гатовы ўсё аддаць, есці пясок і г. д.: "М–мужыкі, в–вы што? Я ўсё аддам!" Ёсць яшчэ колькі секундаў, каб пралічыць схему выратавання. Пакуль круціцеся, звяртаючыся да кожнага з плаксівай бязглуздзіцай, вызначаеце шлях да адступлення. Магчыма, уцякаць прыйдзецца не па прамой, а спачатку да металічнага прэнта, што ляжыць каля трансфарматарнай будкі. Калі братва ўзброеная, трымайцеся далей ад нажа і бліжэй да чалавека з палкай, ланцугом (імі яшчэ трэба замахнуцца). І вось яны ўжо расслабленыя вашай бездапаможнасцю, гэтая секунда – ваш шанц. Вырвацца з кола можна рэзкім штуршком, ударам (высокага ў пах, нізкага ў падбародак). Перад гэтым можна агаломшыць крыкам: "Прозвішча!?" і т. п. Бегчы, не спыняцца, калі збілі з ног – перакуліцца і на ногі; абараняцца і атакаваць толькі штуршкамі ці кароткімі ўдарамі, каб праскочыць далей да таго металічнага прэнта. Далей усё проста.

***(Працяг будзе).***

***Вацлаў ПЛЕЧКА.***

ВОСЕНЬ

# Кветкавыя астравы

***Сее восень золата, фарбуе чырванню дрэвы. Але дзіўная прыгажосць знікне праз пэўны час Адны суквецці з людзей і кветак застануцца на астравах-рынках.***

## Гандляры кветкамі капрызяць як іхні тавар



*Дапамагае прадаваць кветкі Злата.*

ФОТА СЯРГЕЯ АНДРЭЕВА.

МАЛАДЗЕЧНА. Квітнее востраў насупраць кафэ "Белы капрыз". Гаспадыня Валянціна вырошчвае цары-гладыёлусы сама. Каштуюць яны ў прыгожай ўпакоўцы 120000 рублёў за букет.

Дзіва, нават за ружы з уласнага кветніка просяць 40-70 тысяч. Хрызантэмы і астры – 30-35 тысяч. Гэта складае добрую канкурэнцыю прывазным кветкам. Польскія ружы можна набыць за 50-90 тысяч, букет герберaў – за 180 тысяч, хрызантэмы – 70-80 тысяч галінка, гваздзікі – 30-40 тысяч за кветку. Каляровая абгортка каштуе 10 тысяч.

Каб стаць "каралевай кветак", расказваюць **Валя Хомчык і Наташа Мяльгуй**, трэба мець машыну (ездзіць па кветкі), халоднае памяшканне (захоўваць кветкі), 1500000 рублёў (штомесяц – на падаткі), спрытныя рукі (каб рабіць букеты) і прывабная ўсмешка (каб аддзячыць пакупнікам).

Апошніх тут нямала, але і чэргі не стаяць.

– У цэнтры ішло баявей,– уздыхае **Валянціна**.– Людзей там больш, дамы паблізу стаяць, ад скразняку захінаюць. А тут ужо, лічы, ускраіна горада, новыя дамы, няўтульна неяк.

– А будынак новага кветкавага рынку будуюць ужо два месяцы. Паглядзяць на яго бабулькі ды махнуць рукой. Навошта ён такі нязручны – гавораць, прылаўкі ў метр шырынёй, ні да пакупніка не дацягнешся, ні на месцы не пасядзіш. І будаўнікі наракаюць, што прыходзяць ад заказчыка па тры чалавекі на дні і кожны свае парады-загады аддае.

***Злата ГУРЫНОВІЧ.***

## Не звяліся яшчэ рыцары



Ружы прапануе Мілена.

ФОТА СЯРГЕЯ АНДРЭЕВА.

Прадаўцы кветак працуюць на міні–рынку па вуліцы Валынца ад 7 раніцы да 7 вечара. **Тоня** атрымала заказ сёння ўжо а палове сёмай. Адзін з яе пастаянных пакупнікоў прымчаў да яе дамоў і запатрабаваў шыкоўны букет з 9 даўжэзных ружаў – на вяселле. Гэта каштавала яму 800 тысяч.

Кветкі - дарагое задавальненне. Лепей за ўсе разбіраюцца гваздзікі. Яны таннейшыя - па 40 тысяч. Тоня раскрыла маленькі сакрэт. Ружовыя гваздзікі прыгажэйшыя, затое двухкаляровыя стаяць амаль месяц. Але і клопату з тым, каб іх выгадаваць, болей.

Ёсць свае асаблівасці і ў ружаў. Кожныя сем год куст трэба замяняць. Найбольш падабаюцца Тоні гатункі АНЖАЛІКА і ЧОРНАЯ МАГІЯ.

Гваздзікі і ружы сям'я Тоні вырошчвае сама. Кветкамі ў сям'і займаюцца амаль усе. Побач гандлюе свякроў, муж будаваў цяпліцы.

Не ўсё адразу атрымліваецца. Прыкладам, ШПАРГУС – тонкія зялёныя галінкі для аздаблення букета – сёлета не вырас з–за дажджоў, а ў цяпліцах ацяплення (цікавы збег слоў) яшчэ няма.

Найбольш бяруць кветкі ў бліскучых пакетах, з лістамі папараці, стужкамі і банцікамі, спрытна афармленымі Тонінымі рукамі. А сама яна любіць адкрытыя букеты ці кветкі без аніякай апраткі – яны прыгожыя самі па сабе.

У сярэднім букет руж каштуе 150–250 тысяч рублёў. Да канца верасня ў Тоні будуць кветкі, што выраслі на беларускай зямлі. А зімой іх цалкам заменяць прыгажуні з Польшчы і Нідэрландаў.

Дзяўчына мае пэўны досвед у назіраннях за пакупнікамі. Часам прыцягнецца нейкі недарэчны тып, апрануты неахайна – п'яніца з выгляду. І просіць самы дарагі букет. На ўсе грошы панясе жонцы. А здараецца, выйдзе з іншамаркі элегантны мужчына, купіць сціпленькі букецік і паедзе далей.

Вось і зусім цікавы выпадак. 8 сакавіка кветкі разыходзяцца ўмомант. Нейкі кавалер спазніўся і прыбыў, калі ўсе збіраліся дамоў. Спачатку засмуціўся, але знайшоў выйсце – папрасіў прадаць паламаны гваздзік. Тоня яго выкідала, таму грошы браць не згаджалася. Мужчына нейкі час з гонарам настойваў, але ўрэшце ўзяў кветачку і пабег дарыць сваёй даме.

Тоня гаворыць, што мужчыны пакупаюць кветкі часцей, чым жанчыны. Натуральна – не звяліся яшчэ рыцары на зямлі.

***Мілена АНУФРЫЁНАК.***

